# ДОЛЯ МОВЫ БЕЛАРУСКАЕ (ЯЕ ВОНКАШНЯЯ ГІСТОРЫЯ) У РОЗНЫЯ ПЭРЫЯДЫ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ.

## Беларуская мова ў царкоўна-славянскіх тэкстах XI-XII стг.

З прыймом хрысьцянства ў канцу X стг., зьявілася ў Беларусі літаратура. Была яна ў мове царкоўна-славянскай (старабаўгарскай); у вялікай бальшыні ў ёй адно нясьведама прабіваліся некаторыя словы беларускія ды фонэтычныя й граматычныя асаблівасьці. Гэткія памяткі мовы беларускае ёсьцека ўжо з адзінанцатага а двананцатага стагодзьдзя (творы Хвядоса Пячэрскага † 1074)[1]), апісаньне падарожжа да Палястыны (з пачатку двананцатага стагодзьдзя) ігумена Данілы[2]), Творы Кірылы Тураўскага, Аўраамяга Смаленскага[3]) і іншых із двананцатага стагодзьдзя), але яны захаваліся толькі ў копіях із тры-

1) Пра творы Хвядоса Пячэрскага і іх выданьні гл. ў Н. Н. Дурново: Введение в историю русского языка, ч. I. Источники (**Spisy Filosoficke fakulty Masarykovy University v Brne, Brno** 1927), бач. 92. Хвядос Пячэрскі быў **северскім** Беларусам.

2) Е. Е. Голубинский: История Русской Церкви, I, 832. Дурново: Введение, 90.

3) Голубинский, там-жа 821-822. Дурново, о. с. 94.

нанцатага й пасьлейшых стагодзьдзяў. З ранейшых орыгіналаў беларускіх памяткаў захаваліся адно два — гэта Астраміравa Ванэля 1056 г. і Арханґельская Ванэля 1092 г. У першай ізь іх ёсьцека такое мноства прыпадкаў зацьвярдзеньня Р, Ц, Ч, якога не знаходзім у ніводнай іншай памятцы старацаркоўна-славянскай мовы. У другой памятцы маем зацьвярдзеньне Р, Ц, пераход ераў перад Й у Ы, І і колькі прыпадкаў Е на месцу ненацісьненага Ѣ. Ня вылучана, што ё й іншыя беларускія памяткі XI-XIIстг., захаваныя ў ворыґінале, але яны недаволі дасьледаваныя, зн. нявыяўленая іхная беларускасьць.

Што да сьвецкіх твораў пэрыяду асобных гаспадарстваў беларускіх, дык фраґмэнты адных і цэлая поэма северскага паходу на Полаўцаў 1185 г., захаваныя ў „Слове о полку Ігорове", сьветчаць, што аўтары іхныя сьведама часткава ўжывалі жывую мову народную, але цяжка паверыць, каб у ворыґінале „Слова" элемэнтаў народнае мовы было болей, а з часам яны былі замененыя словамі а хормамі царкоўна-славянскімі, як гэта думае Дурново.4) Гэта магчыма было-б адно тады, калі-б знойдзенае „Слово" было копіяй маскоўскай, а тымчасам яно знойдзена ў зборніку беларускім XVI стг., калі, наадварот, царкоўнаславяншчына ў Беларусі ў творах рэліґійных борзда ўступала перад літаратурнай моваю беларускай. Даволі багаты, раўнуючы з царкоўнымі творамі, народны элемэнт у „Слове о полку Ігорове" трэба выясьніць яго сьвецкім характарам.

На аснове Астраміравай і Архангельскай Ванэляў XI стг. ды пасярэдне пры помачы пасьлейшых копіяў іншых памяткаў беларускіх XI-XII стг. і беларускіх орыгіналаў іншых царкоўнаславянскіх памяткаў наступных стагодзьдзяў мы можам азначыць характар беларускіх рэдакцаў XI-XII стг. цсл. памяткаў.

Праўдападобна спорадычна ў ст. XI і сыстэматычна ў стг. XII напісаныя альбо перапісаныя Беларусамі цсл. памяткі малі гэткія асаблівасьці: Ж замест цсл. ЖД із дй, ЖЧ замест цсл. ЖД із здй і згй, ъмь, -ьмь замест цсл. -ОМЬ, -ЕМЬ у снадзіўным склоне адз. ліку, канчатак -ТЬ замест цсл. -ТЪ ў 3 ас. адз. й множнага ліку, хормы займёнаў ТОБѢ, СОБѢ ў прызн. і мясцовым склонах і некаторыя іншыя.

Апрача таго, як абмылы, характарызуючыя мову пішучых, былі гэткія асаблівасьці: 1. зацьвярдзелыя Р, Ц, Ч; 2. мяшаньне

4) О. с. 9.



Ѣ і Е, залежна ад дыялекту, наагул або толькі ў складох ненацісьненых; 3. мяшаньне прыймёнаў **у** а **въ** ды У а В на пачатку слова (рыса аднолькавая з моваю ўкраін.); 4. мена Ж а З, Ш а С, як асаблівасьць паўночнага нарэчча беларускае мовы; 5. ГЛ з ДЛ і КЛ з ТЛ, як рыса пскоўскае гаворкі. Гэтымі рысамі (пералічанымі ў бодках 1-5) беларуская рэдакца цсл. тэкстаў розьнілася ад рэдакцы расійскай (паўночна-рускай) а ўкраінскай цсл. тэкстаў. Апрача таго, беларускія памяткі розьніліся нябыцьцём асаблівасьцяў, характарыстычных для памяткаў расійскіх а ўкраінскіх.

## Беларуская мова ў творах практычнага характару XIII-XIV стг.

Не царкоўнаславянская мова, але дыялекты беларускае мовы народнае ўжываліся ў творах практычнага характару, рознага роду лістох-дакумэнтах - адміністрацыйных, дароўных, дастамэнтах, гандлёвых умовах і да г. пад. Відавочна, гэтак было і ў стагодзьдзю дванаццатым, а мо нат раней, ужо ў стг. адзінаццатым, але захаваныя лісты не ранейшыя трынаццатага стг. Мова іх альбо сусім вольная ад царкоўна-славянскага ўплыву, альбо — у ваўтараў духоўных — мае малы ўплыў цсл. мовы. Гэта чысьленыя памяткі. У бальшыні яны малыя, але часьць іх — вялікага памеру і багатага зьместу, як гандлёвая ўмова Смаленску зь Немцамі 1229 г. або ліст Рыжан да Віцебску каля 1280 г. з протэстам супроць дзеяньняў Віцебскага князя.

## Старабеларуская мова літаратурная.

Таксама ў задзіночаным гаспадарсьцьве беларускім — Вялікім Княсьцьве Літоўскім жывая народная мова беларуская ўжывалася ў творах практычнага характару, была яна таксама моваю права, судоў, адміністрацы, — наагул моваю гаспадарствавай на ўсёй тэрыторыі гаспадарства.5)

З часам у гэтай мове вытвараюцца нормы, абавязуючыя ўсіх пішучых ёй, незалежна ад дыялекту мясцовасьці іхнага паходжаньня, пры гэтым важная роля тут, відавочна, прыпадала мове вялікакняскага двара. У пачатку XV стг. нормы гэтае мовы маюць ужо закончаны характар.

Дагэтуль выяўленыя гэткія агульныя й дыялектычныя аса-

5) Пр. Е. Карскій: Белоруссы, III-2, бач. 16.

блівасьці беларускія як **нормы гаспадарствавае мовы Вялікага Княства Літоўскага:**

1. з індэ. даўгога Е перад даўгім насавым сугукам альбо перад групаю насавых сугукаў ё самагук аднолькавы з рэфлексам старога ѣ (каменны, румены);

2. у складзе ненацісьненым перад складам із I націсьненым Ѣ не перайшло ў I (седить, детина, мезіны палец);

3. Ъ у прэфіксах перад - ЙЬ - перайшло ў Ы (зыйдеть, падыйметь, падыйдеть);

4. ё Д у словах **борзды, борзда;**

5. замест ненацісьненага Я пісалася Е (светы, месец, паметь, поес, любеть, любечы), гэта была рыса правапісная;

6. хорма дзеяслову **паметовати, паметую** (а не памятать,-аю);

7. хормы дзеясловаў **поведити, ненавидити, досмотрити** (із суфіксам - I -);

8. дакладны (родны) склон адз. ліку мяккіх асноваў на **'А** мае канчатак — I — : купли, державци, тещи;

9. словы „стол" і „ліст" у дакладным склоне адз. л. маюць канчатак — У — : **столу, лісту;**

10. назоўны-прымальны склон мн. ліку мяккіх асноваў на —'О —'А маюць канчатак — I —: князи, гаи, вулицы;

11. хорма назоўн.-прым. склону мн. л. **вси** ўсіх родаў;

12. хормы назоўн.-прым. скл. мн. л. **мои, твои, свои** ўсіх родаў;

13. хормы назоўнага-прымальнага мн. ліку прыметнікаў а прыметнікавых займёнаў на **—ЫИ**, **—ИИ** побач на**—ЫЕ**, **—ИЕ** (**новыи, тыи** побач **новые, тые**);

14. хорма дзеясловаў 3 ас. адз. й мн. ліку цяп. часу на -ть (идеть, идуть);

15. канчатак тэматычных дзеясловаў 1 ас. мн. ліку —М (чиним, гуляем);

16. канчатак 1 ас. мн. ліку атэматычных дзеясловаў —МО (**есмо, дамо**);

17. хорма ТОТ паказальнага займені;

18. у словах „светка, светчыть" ё Т;

19. словы: аддаліць, аддалены (у значаньню рас. устранить, -енный); адказ, адказаць; адзіночыць, задзіночыць, задзіночаньне; веданьне; вонках; гаспадар, гаспадарства, гаспадарстваваць (у значаньню рас. „государь, -ство", „царствовать"); спадар, спадарыня, спадарства; гаспода; год; лічба (у значаньню рас. „счет", „отчет"), лічбу чыніць, здаваць, лічбызданьне; маемасьць; родзіч (у значаньню рас. „земляк"); сябра, сябраны.



Здаецца, што нормаю было таксама слова „падачкі" ў значаньню рас. „подати".

Менаваныя нормы сьветчаць, што гаспадарствавай моваю Вялікага Княства Літоўскага была мова беларуская. А нормы, паданыя пад бодкамі: 4, 7-17 паказуюць, што асноваю разгляданае мовы сталіся паўночна-ўсходнія гаворкі беларускага сярэдняга дыялекту — мова паўднявое часьці асноўнага ядра даўнейшае Полаччыны (прастора з пасьлейшымі паветамі Лепельскім, Дрысенскім, Барысаўскім, Сянскім, Дзісенскім а Браслаўскім, магчыма безь некаторых часьцяў іхных. Іншыя нормы гаспадарствавай мовы Вял. Кн. Літоўскага не пярэчаць яе беларускасьці ані азначанай гэтта прасторы ейнай асновы.

У першай палавіцы XV стг. гэтая нормаваная мова становіцца моваю літаратурнай, ёю пішуць мастацкія творы. Ужо ў гэтым стагодзьдзю ў ёй ё багатая літаратура.[6])

У XV стг. беларускія Жыды робяць пераклады старога дастамэнту Біблі на беларускую літаратурную мову, пераклады іхныя прытарнаваныя ўжываць у сынаґоґах.[7]) Будучы пад уплывам цсл. традыцы, самі Беларусы робяць пераклад Біблі пасьлей, наймя ў 1517-1519 вышаў друкам поўны пераклад Біблі, зроблены славутным гуманістым беларускім, др. Пранцішом Скарынаю. Ад Біблі Скарынінай мова беларуская борзда пашыраецца ў творах рэлігійнага зьместу, выціскаючы адтуль мову царкоўна-славянскую; гэтая застаецца адно ў кнігах багаслужбовых, але некаторымі сваймі зьявамі беларуская мова пранікае ў цсл. і ў гэтай галіне літаратуры.

У XVII стг., у часе пашырэньня вуніі, што пагражала самому быцьцю праваслаўя ў Беларусі а Ўкраіне, сярод часьці сфанатызаваных праваслаўных пісьменьнікаў, галоўна украінскага паходжаньня, зьяўляецца імкненьне да поўнага аднаўленьня ў царкоўным жыцьцю цсл. мовы. Занядбаньне яе яны ўважалі галоўнай прычынай упадку праваслаўнае царквы. У ходаньню, адылі, з гэтым рухам беларуская літаратурная мова вышла пераможнай.

Але з часам старабеларуская мова літаратурная падупадае.

6) Пр. Дурново, о. с., 10. Карский, там-жа. Янчук: Нарысы гісторыі беларускае літаратуры, Менск 1922, бач. 41.

7) Карский, там-жа, 21.

Першы выцень ёй быў зроблены Люблінскай вуняй 1569 г., калі Ўкраіна была адабрана ад беларускага гаспадарства і прылучана да Польшчы. Тады на Ўкраіне шырокім рэчышчам праточуюцца ў гэтую мову польскія ўплывы. Апрача таго, польская адміністраца імкнецца яе тут заступіць у ўрадах моваю польскай. На застаўлай у сваім незалежным гаспадарсьцьве этноґрафічнай Беларусі а Жмудзі польскі ўплыў на беларускую літаратурную мову шмат меней адчуваўся. Моваю літаратурнай застаецца яна й далей на ўсёй тэрыторыі свайго дагэнулешняга пашырэньня.

Упадак старабеларускае мовы літаратурнае стаўся ў канцу асьмінанцатага і на пачатку дзевятнанцатага стагодзьдзя, калі, з прылучэньням да Расіі земляў Вял. Кн. Літоўскага, яе Расійцы ўсілствам аддалілі із жыцьця культурнага й царкоўнага.

НОВАЯ БЕЛАРУСКАЯ МОВА ЛІТАРАТУРНАЯ пачынаецца ў XIX стг. із сучасных дыялектаў беларускае мовы народнае ды вырабляецца й крышталізуецца ў стг. XX, калі паўстаець у ёй ладная літаратура, красная, навуковая й рэліґійная. Асноваю новабеларускае літаратурнае мовы сталіся заходнія гаворкі сярэдняга беларускага дыялекту.

Як было сказана вышэй, старабеларуская мова літаратурная была пашырыўшыся таксама на Аўкштоце й Жмудзі, цяпер званых Лятувою, і на Ўкраіне. Спробы пісаць жмудзкай (лятувіскай) моваю — колькі рэліґійных кніжак — зьявіліся ў шаснанцатым стагодзьдзю, спачатку ў прускай, дзякуючы рэформацыі, а пасьлей — у меншай меры — і ў беларускай Лятуве. Сьвецкая літаратура ў мове жмудзкай паўстаець толькі ў XIX і ў XX стг. вырабляецца агульна-жмудзкая, або, як цяпер завуць, лятувіская мова літаратурная.

Сярод Украінцаў у XVI-XVII стг. былі спробы пісаць паўкраінску, але Ўкраінцы не змаглі адарвацца ад старабеларускае мовы літаратурнае. Украінская літаратурная мова ў старым часе не паўстала.[8])

Ці вымаўлялі Ўкраінцы пасвойму старабеларускую мову літаратурную? Здавалася-б, што маглі вымаўляць, паколькі дазваляў гэта правапіс гэтае мовы. Этымолёґічны (з выняткам аддаваньня этымолёґічнага Ѣ) традыцыйны правапіс часткава гэта дазваляў. Гэтак, ненацісьненыя О, Е маглі Ўкраінцы вымаўляць як О, Е, але І з О, Е ў новазакрытых складох не маглі вымаўляць. Дагэтуль

8) Пр. Дурново, о. с., 10, 20.



ужываныя хормы з О, Е замест украінскага І ў новазакрытых складох украінскіх прозьвішчаў, такіх, як Вояковський, Грушевський, Киселевський (замест Воякївський і г. д.), каторыя й вымаўляюцца з О, Е, а ня І, сьветчаць, што Ўкраінцы гэтага І не вымаўлялі. Ѣ таксама рэдка маглі вымаўляць паўкраінску, зн. як І, бо гэтая літара рэдка ўжывалася ў старабеларускай літаратурнай мове, а на сваім этымолёґічным месцу і вельмі рэдка. Дык адно часткава маглі Ўкраінцы старабеларускую літаратурную мову вымаўляць пасвойму. Зарээстраваныя прыпадкі вымовы ўкраінскае маглі быць адхінамі ад вымовы звычайнай.

Паўкраінску на Ўкраіне пачалі пісаць толькі ў канцу асьмінанцатага стг.[9]) У XIX стг. мова ўкраінскае літаратуры ладне разьвіваецца і ў XX стг. канчальна выробляецца ўкраінская мова літаратурная.

Што да народаў не абнятых у свой час старабеларускай моваю літаратурнай, дык польская мова літаратурная паўстала ў шаснанцатым стг.

У Маскоўшчыне, як даўней звалася Расія, „в течении XV и XVI в. на основе местного московского говора развился собственный деловой язык, господствовавший там до XVIII в... Литература художественная и церковная в широком смысле до XVIII в. пользовалась только церковнославянским языком".[10]) Деловой язык Московских приказов никогда не был языком ни художественной, ни философской и научной литературы".[11])

Расійская мова літаратурная паўстала ў XVIII стг. „Русский литературный язык получился из той редакции цсл. языка, которая была в употреблении в Московской Руси... За вычетом немногочисленных ю-р. элементов, нынешний русский литературный язык обнаруживает в своем составе двоякие элементы: произношение и формы словоизменения в общем совпадают с произношением и формами словоизменения московского говора, словарный же состав и словообразование, равно как и правописание, наполовину цсл.".[12])

**Царкоўна-славянская мова ў Беларусі ад XIII стг. дагэтуль.**

Царкоўна-славянская мова падпадала пад уплыў жывое мо-

9) Дурново, о. с.
10) Дурново, о. с., 11.
11) Там-жа, 20.
12) Там-жа, 3.

вы таго краю, у якім ужывалася. Гэта датыкаецца асабліва вымовы, у меншай меры правапісу. У пэрыяд задзіночанага гаспадарства беларускага у Беларусі ўлучна з Псковам быў беларускі тып царкоўна-славянскае мовы і свая школа царкоўна-славянскага пісьма.[13]) Дыкжэ з Псковам, дарма што Пскоў ад 1464 г. залежыў ад гаспадарства Маскоўскага, а ў 1510 г. Масква сусім чыста зьнішчыла быцьцё Пскова, як апрычонай палітычнай адзінкі. Дзеля таго, што гэта быў час, калі беларуская літаратурная мова панавала і на Ўкраіне, дык там таксама быў тый самы беларускі тып царкоўна-славянскае мовы і тая самая школа пісьма. Магчыма, адылі, што Ўкраінцы вымаўлялі царкоўна-славянскую мову беларускае рэдакцы да некаторае меры пасвойму, прынамся ў некаторых мясцовасьцях і ў некаторых часох гэтага пэрыяду.

Сусім накшы тып царкоўна-славянскае мовы быў у Маскоўшчыне. Розьніца была ў вымове, у націску, у некаторых асаблівасьцях морфолёгічных; гэткія, прыкладам, розьніцы ў вымове Ѣ, у вымове Ц і шыпячых сугукаў перад Е і іншыя. Гэтыя розьніцы можна пабачыць, калі прыраўнаваць царкоўна-славянскую граматыку Мялета Сматрыцкага, выданую ў Беларусі (у Еўю) 1619 г. і іншыя царкоўна-славянскія кнігі, выданыя ў Беларусі, да тае-ж граматыкі Сматрыцкага, пераробленай і выданай у Маскве ў 1648 г. і да кнігаў расійскіх старавераў, перадаючых тэкст маскоўскіх даніканаўскіх (зробленых да рэформы патрыярхі Нікана) выданьняў.[14])

### Беларускія ўплывы на царкоўна-славянскую мову Маскоўшчыны.

У сямнанцатым стагодзьдзю ў Маскоўшчыне, каторая была гаспадарствам азіяцкага тыпу, пачынаецца імкненьне да асьветы. Першы імпульс да гэтага быў дадзены ў часе анархіі а войнаў у Маскоўскім гаспадарсьцьве 1606-1618, калі Маскоўцы зыткнуліся з тымі Беларусамі, што прышлі да Маскоўшчыны із свайго культурнага незалежнага гаспадарства, прышлі як вывальненьнікі тае часьці сваіх братоў-Беларусаў, што былі тады ў маскоўскай няволі — Севершчыны, Смаленшчыны, вярхоўскіх земляў, Разаншчыны й Пскова. Пачынаючы зь 50 год сямнанцатага стг.,

13) Пр. А. Шахматов: Несколько заметок об яз. псковских памятников, 166, 173.

14) Дурново, о. с. 19.



да Масквы прыяжджае зь Беларусі а Ўкраіны шмат эміґрантаў-культуртрэґераў; яны арганізуюць а рэформуюць культурнае а царкоўнае жыцьцё гэтага краю. Дарма, што побач із Беларусамі былі тут Украінцы, усі яны прыносілі беларускія моўныя ўплывы, бо, як было сказана вышэй, і на Ўкраіне ў тых часох панавала беларуская літаратурная мова, а мова царкоўна-славянская была беларускае рэдакцы. Дзеля таго „Во 2-ой половине XVII в. цсл. язык Московской Руси подвергся сильному влиянию цсл. языка Западной Руси. Исправление богослужебных книг проведенное патриархом Никоном в 50-ых и 60-ых годах XVII в. касалось в значительной степени их языка, внося в него изменения согласно нормам цсл. языка Западной Руси"[15]) значыцца Беларусі. У тым-жа часе ўплыву мовы беларускіх эміґрантаў паддалася расійская мова места Масквы, наймя ў вымове ненацісьненых самагукаў, што з часам із мовы м. Масквы перайшло да мовы ейных аколіцаў, адлі да расійскае мовы літаратурнае.[16])

З часам Маскоўшчына памалу вывальнілася ад беларускага ўплыву ў цсл. мове і нат, паняволіўшы Беларусь у канцы асьмінанцатага стагодзьдзя, Маскоўцы ўсілствам накідалі Беларусам сваю вымову цсл. мовы. Адылі, яшчэ ў XX стг. некаторыя беларускія рысы, прыкладам вымова Г як h, заставаліся ў цсл. мове Маскоўшчыны.

### Друкарства.

Першая друкарня беларуская была ў 80-ых гадох пятнанцатага стагодзьдзя ў Кракаве. Паўстала яна стараньням беларускіх магнатаў, што былі ў Кракаве пры сваім Вялікім князю Казімеру Ягайлавічу, каторы быў адначасна каралём польскім. З гэтае друкарні ў 1483 г. вышаў першы друк беларускі „Трыводзь Цьветная".[17]) у 1491 г. — таксама ў Кракаве — Беларусы надру-

15) Дурново, о. с. 20. Гл. таксама Безсонов: Белорускиe народные песни, перадмова.

16) Безсонов, там-жа. Гл. таксама Станкевіч Я. („Веда", 1951, бач. 17-18).

17) Киркор А. К.: Просвещение и народное творчество в Литве („Живописная Россия", III, 1882), бач. 99. Гл. яшчэ Lichtensztul Josef, Dr.: The White Ruthenian Problem in Eastern Europe (Bulletin of the Polish Institute of Arts and Sciences in America, vol. II, № 4. New York 1944). бач. 1174. Трыводзь Цьветная — богаслужбовая кніга з малітвамі да багаслужбы на рухомыя дні ад Вялікадня да нядзелі Ўсіх Сьвятых.

кавалі Октоіх — царкоўны песеньнік, Часасловец, Псалтыр, Трыводзь Посную і (другі раз) Трыводзь Цьветную.[18]) Менаваныя кнігі былі надрукаваныя ў мове цсл. беларускае рэдакцы з мноствам беларускіх асаблівасьцяў.[19]) Просьле гэтага чэцьверць стагодзьдзя няма ведамкаў празь беларускі друк. Адлі ў 1517 беларускі гуманісты, др. Пранціш Скарына, закладае ў Празе (Чэхі) беларускую друкарню, у каторай ад 1517-1519 г. надрукаваў зроблены ім пераклад на беларускую мову Біблі. У 1520 г. ён перавозе гэтую друкарню да сталіцы Беларусі Вільні, дзе друкуе новае выданьне свае Біблі.

Дзеля прыраўнаньня зацемлю, што першы друк польскі быў у 1475 г., калі быў надрукаваны папольску „Войча наш", а наступны друк — ужо кнігі — папольску зьявіўся ў 1505 г.

Друкарня Скарыніна стаяла на высокай роўні, і дзеля таго яна мела вялікі ўплыў на развой друкарства ў Беларусі і ў суседніх краёх. Просьле перавозу друкарні Скарынінай да Вільні, друкарні ў Беларусі борзда пашыраюцца па ўсім краю; у іх друкуюць кнігі як у беларускай, так і ў цсл. мовах.

У 1564 г. беларускі эміґрант-друкар, Пётра Цімашонак (накш Цімахвееў), зь места Мсьціслава,[20]) разам із Іванам Федаровічам, відавочна ягоным вучаньнікам, надрукавалі ў Маскве Апостола (апостольскія дзеяньні). Подле ўсіх акалічнасьцяў зьяўленьня друкарні ў Маскве, яе Маскоўцы купілі ў Беларусаў, а з друкарняю прыехаў да Масквы й друкар, а мо заразом мастак і ґравёр, Пётра Мсьціславец.[21]) Іван Федаровіч паходзіў із Постуні Ліхвінскага павету, пасьлейшай Арлоўскай губэрні — мясцовасьці яшчэ да нашых дзён этноґрафічна беларускай.[22]) (У гэным часе прастора Ліхвінскага павету належыла да Маскоўскага гаспадарства). З прычыны надрукаваньня першае кнігі ў Маскве, там узьнялася злосьць „начальник и священноначальник и учитель", каторыя абвінавацілі нашых друкароў у чараўніцтве, падвучылі ды збунтавалі супроць іх цемную масу. У часе бунту друкарня й кніга былі спаленыя і самі друкары мусілі ўцякаць

18) Карский: Белоруссы, I, 398.

19) Пр. Дурново, о. с., 63.

20) Пр. Янчук: Нарысы гіст. белар. літаратуры, 39.

21) Гл. Прынскі Максім: Тое-сёе аб друкарскіх майстрох беларускіх — Пётру Мсьціслаўцу, Івану Федаровічу а Грыню Івановічу („Веда", Ню Ёрк 1952, бач. 34-37).

22) Гл. там-жа, 38.



да Беларусі. Тут яны працуюць у Заблудаўю ля Беластоку ў друкарні беларускага магната Грыгора Ходкевіча, вялікага гатмана Вялікага Княства Літоўскага.

У 1569 П. Мсьціславец пакінуў Заблудаўе, ён стаўся арганізатарам вялікай друкарні братоў Мамонічаў у Вільні. Федаровічжа па кароткім часе пераехаў да Львова і заклаў там сваю друкарню. Зь ім разам працаваў другі беларускі друкар і разьбар літараў, Грынь Івановіч, што разам із Федаровічам прыехаў із Заблудаўя. У 1574 г. яны надрукавалі Апостола. Львоўскі Апостол быў першай кнігаю, надрукаванай на Ўкраіне. У 1575 г. беларускія друкары пераехалі зь Львова да Астрога і там надрукавалі Біблю князю Касьцянціну Астроскаму. Літары да гэтае Біблі (шэсьць шрыфтаў, у тым ліку адзін грэцкі) нарэзаў Грынь Івановіч. Гэткім парадкам Беларусы сталіся закладнікамі друкарства на Ўкраіне.

Па зьліквідаванай цемнымі Маскоўцамі спробе друку ў 1564 г. друкарства ў Маскве пачалося — не безь беларускага ўчасьця[23]) — толькі ў XVII стг. і „было сосредоточено только в Москве, где печатались почти исключительно книги на цсл. языке, главным образом богослужебные и лишь в единичных случаях на русском".[24])

## Ґрафічнае мастацтва.

Ґрафічнае мастацтва ў Беларусі, ведамнае ад найдаўнейшых часоў, асабліва разьвіваецца з пашырэньням тут друкарства. „Ґравюры ў выданьнях Пр. Скарыны, як і працы пасьлейшых ґравераў беларускіх, сваёй хормаю глыбака рэалістычныя і адтвараюць рэальнае беларускае жыцьцё, дарма што ў іх біблійныя і іншыя рэліґійныя тэмы. Ґравюры ў друкаваных Скарынаю кнігах ня ўступаюць найлепшым сучасным ґравюрам нямецкім. Найлепшы патрэт самога Скарыны."[25]) Пры ўсіх большых друкарнях у Беларусі разьвівалася ґравернае мастацтва і былі ґраверныя школы.

23) Гл. цытаваны вышэй артыкул Прынскага, бач. 36. Таксама празь дзеяльнасьць Грыня Івановіча і ўсю дзеяльнасьць Федаровічаву гл. ў гэтым артыкуле Прынскага.

24) Дурново, о. с., 62.

25) Генин Д.: Графика („Очерки по ист. изобразительного искусства Белоруссии, Москва-Ленінград 1940, бач. 86). Пр. таксама Ippel: Zur weissruthenischen Kunst, бач. 93.

Зь вялікай колькасьці ґравераў, ведамных і няведамных, каторых працамі прыбіралі беларускія друкаваныя выданьні сямнанцатага-асьмінанцатага стагодзьдзяў, адзначаецца школа ґравераў магілеўскіх, найвыдатнейшыя зь іх Васіль Вошчанка, адлі Хведар Ангілейка, Апанас Вошчанка а іншыя.[26])

**Рэформа альфабэту.**

Стары цсл. кірылічны альфабэт быў нявыгодны чытаць а пісаць. Дзеля таго ў пісьме беларускім пачаў вырабляцца шрыфт набліжаны хормаю да шрыфту лацінскага. Быў гэта беларускі скорапіс. Гэты шрыфт пачаў пранікаць і да друку. Вельмі падобны да скорапісу XVI стг. ё друк Статуту Літоўскага 1588 г.)[27]) Яшчэ болей набліжаныя літары да лацінскіх маем на тытульных бачынах беларускіх віленскіх друкаў XVII стг., прыкл. у кнізе „Ефимериос".

Консэквэнтна з гэтым развоям беларускі навучоны эміґрант а дырэктар друкарні ўв Амстэрдаме, Гальляш Капіевіч (рэдчас званы таксама Капіеўскім), зрабіў, у канцу XVII стг., поўную рэформу беларускага альфабэту, упрасьціўшы літары, прыдаўшы ім акругленасьць і наагул набліжыўшы іх хормаю да літараў лацінскіх. Гэткі альфабэт харошшы й лягчэйшы чытаць а пісаць.

Рэформа Капіевічава была прынятая ўсімі народамі, ужываючымі ў сваёй мове кірыліцу. У Расіі да сьвецкіх друкаў яна была ўведзеная ў XVIII стг. Яе там „звалі то амстэрдамскімі літарамі, то ґражданкаю, то беларускім альфабэтам".[28])

Альфабэт, ужываны ў новабеларускай літаратурнай мове, розьніцца толькі колькасьцяй літараў ад альфабэту Капіевічавага, наймя выкіненыя літары ъ, ѣ, и (замест И а І ё адно І) і для У нескладатворнага ўведзеная Ў. Шмат болей Капіевічаў альфабэт палепшылі Сэрбы, уводзячы лацінскую літару ј і ўжываючы яе ўсюдых, дзе гук, абзначаны ёю, вымаўляецца, зн., калі-б так зрабіць у мове беларускай, дык пісалі-б: јон, јама, јушка, јеміна, јіншы, але — радня, цюцька, дзёгаць, цеста, сіла.

---

26) Генин, там-жа.

27) Пр. Янчук: Нарысы гіст. блр. літ., 53.

28) Адарюков В. Я.: Книга гражданской печати в XVIII в., 1926, бач. 242. Праз рэформу Капіевічаву глянь яшчэ зацемкі ў варт. Дубоўкі Вал. „Лацініца ці кірыліца?" („Узвышша", Менск 1929, бач. 107-110).



ЛАЦІНІЦА. Побач із альфабэтам кірылічным ужываецца цяпер у мове беларускай, праўда ў шмат меншай меры, альфабэт лацінскі. Пачаткі яго сягаюць у Беларусі сямнанцатага стагодзьдзя. У стагодзьдзю дзевятнанцатым вялікая бальшыня беларускіх друкаў — найчасьцей, з прычыны забароны ў Расіі друкаваць пабеларуску, выдаваных заграніцаю — выходзіла лацініцаю. У дваццатых гадох гэтага стагодзьдзя сярод часьці Беларусаў было спраўжнае імкненьне ўвесьці лацініцу як адзіны агульна-беларускі альфабэт. Трэба прызнаць, адылі, што такое ўвядзеньне немагчымае дзеля ўсходніх прастораў беларускіх, дзе лацініцы ані ня знаюць і ўважаюць яе за альфабэт чужы. Але, як альфабэт падпаможны, побач із кірыліцаю, лацініца патрэбная й карысная. Каля 90% Беларусаў-каталікоў у заходняй Беларусі і мілённая эміґраца зь іх знаюць толькі лацініцу. Беларуская лацініца дапоўненая значкамі č, š, ž, ŭ.

АРАБІЦА. Наапошку, калі гаворка праз альфабэт, то дзеля паўніні, нельга абмінуць альфабэт арабскі, ужываны жменькаю беларускіх мусульман у творах рэлігійных. У ім арабскія значкі прытарнаваныя аддаваць беларускія самагукі А, О, Е, У, але І а Ы перадаюцца адным значком. Што да сутукаў, дык ś, ź, а таксама мяккое К, перадаюцца асобнымі літарамі. Дзеля абзначаньня мякчыні іншых сугукаў няма спосабу. Для беларускіх ДЗ а Ц прыдуманыя апрычоныя літары.

**Я. Станкевіч.**

## ДАДАТАК

### ПАХОД АЛЬГІРДАЎ НА МАСКВУ

Друкуем павесьць „Паход Альгірдаў на Маскву", як зразу старабеларускае літаратурнае мовы і мастацкае літаратуры. Паход Альгірдаў на Маскву быў у часе між 1362-1377 г. чатырнанцатага стагодзьдзя. (Вялікі Князь Альгірд гаспадарстваваў ад 1341-1377 г., а маскоўскі Зьмітра Йванавіч ад 1362-1389 г.). Праўдападобна ў пятнанцатым стагодзьдзю, калі яшчэ помнелі гэты паход, і была напісаная гэтая павесьць. Захавалася, адылі, яна ў пасьлейшых копіях, наймя ў т. зв. сьпіску Яўрэінаўскім із сямнанцатага стагодзьдзя і ў сьпіску Быхаўцавым[1]) із шаснанцатага стг. беларускіх („літоўскіх) летапісаў. У іншых сьпісках гэтае павесьці нямашака, але яе знаў Стрыйкоўскі (Кроніка II, 10-12) у рэдакцы згоднай із сьпіскам Быхаўцавым. Менаваныя сьпіскі летапісаў надрукаваныя ў П. С. Р. Л., скуль гэтта павесьць праз паход Альгірдаў на Маскву перадрукоўваем, наймя із сьпіску Яўрэінаўскага з дадаткамі ў дужках із сьпіску Быхаўцавага там, дзе ў першым чагось не ставала альбо было

---

1) Назовы паходзяць ад першых собсьнікаў **знойдзеных** летапісаў.

прыпсавана. Мова арыгіналу павесьці тут захаваная, але правапіс із тэхнічных (друкарскіх) прычынаў праведзены цяперашні. Назоў павесьці даны цяпер; у арыгінале назову няма.

**Рэдакца.**

Вялікі Князь Альґірд (Гідзімінавіч) Літоўскі і Рускі, іспраўляючы ўрадна гаспадарства свае, не малы (час) гаспадарстваваў у Вялікім Князьцьве Літоўскім (і) быў у (даканчаньню) і ў добрай прыязьні зь вялікім князям Дзьмітрыям Іванавічам Маскоўскім. Той-жа князь вялікі бяз усякае віны аставіў даканчалую прыязнь, (і) прыслаў к Вялікаму Князю Альґірду пасла сваяго з ызьветам, і прыслаў к яму агонь да шаблю, (даючы яму ведаці) то: буду ў зямлі тваей па краснай вясьне і па ціхому лету. І Князь Вялікі Альґірд выняў з агніва губку да крэмень і, (запаліўшы) губку, даў паслу і рэк: „Дай то гаспадару сваяму і скажы яму, што (ў нас) у Ліцьве агонь ё; жэ вон ізьвячаець мне, хоцячы ў маей (зямлі) быці па краснай вясьне і па ціхому лету, а я (дасьць Бог) у яго буду на Вялікдзень і (пацалую) яго красным яйцом (чараз шчыт) суліцаю а з Божаю (помаччу) к гораду (яго) Маскве копіе свае прысланю, (бо) ня то воін, што (часу) падобнага ваюець, (але) то воін, (калі непагода) вайны над непрыяцелям сваім непрыязьні даводзіць."

І адпусьціўшы пасла, і забраўшы войска свае літоўскае і рускае, і пашоў із Віцебска проста (ку Маскве). І на самы Вялікдзень рана, князь вялікі з князі і з баляры (ад заутрані йдзець із) цэркві, а Князь Вялікі Альґірд (з усімі сіламі) сваймі, (распусьціўшы харугві), паказаўся пад Масквою на Паклоннай гарэ.

(І, відзячы то), князь вялікі Маскоўскі (і ўпадзе ў страх вялік, і ужасеся, відзячы Вялікага Князя Альґерда зь вялікаю сілаю яго, іж прышоў на яго так моцна а сільна) подле слова сваяго, (і ня могучы яму жаднага адпору ўчыніці, і паслаў да яго, просячы яго і вялікія дары яму абяцаючы, абы яго з айчыны) яго Масквы ня выгнаў і гнеў свой адпусьціў, і ўзяў у яго, што хацеў.

І Князь Вялікі Альґірд (зжаліўся і ласку) сваю ўчыніў, (і з Масквы яго не дабываў, і) мір зь ім узяў. І потым, змову ўчыніўшы, і сам князь вялікі (Маскоўскі) к яму выехаў, і зь ім відзеўся, і дары (многімі, золата, серабра і дарагім жамчугом, і сабольмі, і іным дарагім а дзіўным зьверам махнатым князя вялікага) Альґірда дараваў і шкоду, што вон (прыняў, у зямлю яго йдучы), яму заступіў.



І князь Альґірд рэк князю вялікаму Маскоўскаму: „Ашча ясьмі з табою і памірыўся, (але) мне ся (іначай) учыніць ня годзіць, (толька) хачу пад горадам тваім Масквою копіе свае прыкланіці а ту славу учыніці, што Вялікі Князь Літоўскі і Рускі, і Жамойцкі копіе свае пад Масквою прыкланіў. І ўседшы сам на конь, і копіе свае ўземшы ў (руку, і прыехаўшы) к гораду, і копіе свае к (сьцяне) прыкланіў, і, едучы назад, рэк так вялікім голасам: „Княжа вялікі Маскоўскі, памятуй (то), што копіе літоўскае стаяла пад Масквою!"

І потам Князь Вялікі Альґірд (за ўсімі) войскі сваймі зь вялікаю чэсьцю і (зь нявымоўным) дабыткам, (зваяваўшы) і гарады многія пабраўшы, і граніцу ўчыніў па Мажайск да па Каломну (і за ўсімі людзьмі сваймі ў цэласьці адыйдзе).

## R E S U M E.

Professor John Stankievich describes the role which the Whiteruthenian language played in different periods of the history of Whiteruthenia. With the acceptance of Christianity in the end of the 10th century, religious literature began to appear. During the 11th and 12th centuries literary works were written in the old Church-slavic language, with only a few phonetical, grammatical and lexical Whiteruthenian peculiarities. Some of these Whit'eruthenian peculiarities were used in this literature intentionally and constantly, others happened by mistake in writing. In secular works Whiteruthenian authors used purposely more of the living vernacular. The Whiteruthenian church-slavic texts distinguished themselves thru these peculiarities from the same Russian and Ukrainian texts. Further they distinguished themselves by the absence of traits characteristic of the Russian and Ukrainian editions of church-slavic relics.

**Whiteruthenian language in works of practical character in the 13th-14th cent.** Church-slavic language was not used in works of practical character; it was the Whiteruthenian vernacular that was used in documents of different kinds — administrative, donative, business agreements, etc. Evidently such was the situation also in the 12th and even in the 11th cent., but the documents which have been preserved, are not older than from the 13th cent. Their language is either free from Church-slavic influence or shows some influence in the works of clerical authors. Such relics are numerous.

**Old Whiteruthenian literary language.** Whiteruthenian vernacular was also used in the United Whiteruthenian State, Grand Duchy of Lithuania. It was the language of practical literature, spoken at the court of the grand duke, used by the educated classes, administration, courts, on the whole it was the state language thruout the whole state territory. Later on certain standards were formed which all scribes and writers, using it, were bound to observe, in spite of the local dialects. These standards were completed in the beginning of 15th cent. Among the standards of this language Stankievich points out at 18 phonetical, word forming and morphological peculiarities which prove that this languaage was from its very beginning Whiteruthenian and that its basis was the north eastern part of the Whiteruthenian central dialect — the language of the southern part of the basic core of the former Grand Principality of Polotzk (areas with later districts of Leple, Drysa, Borysow, Senna, Dzisna and Braslaw, possibly with exception of some of their parts.) In the first half of the 15th cent. this standard language became the literary language, used in works of art. Rich literature has appeared already in that century (Durnovo, Karskij, Yanchuk.)

In the 15th cent. the Whiteruthenian Jews translated the Old Testament into the Whiteruthenian literary language; these translations were adapted for the use in synagogues. Because Whiteruthenians were under the influence of the Church-slavic language in the church, they did not translate the Bible until later when a full translation by Dr. Fr. Skoryna was printed in 1517-1519. After Skoryna's Bible translation, works of religious character were written in the Whiteruthenian language, driving out Church-slavic. The latter remained only in liturgical books where the Whiteruthenian language penetrated in some of its peculiarities.

The decline of the old Whiteruthenian literary language occured in the end of the 18th and beginning of the 19 cent. When the Polish Whiteruthenian Republic was divided and the territory of the Grand Duchy of Lithuania was annexed to Russia, the Whiteruthenian language was forced out by Russians from the cultural and religious life.

The new Whiteruthenian literary language began in the 19th cent. and the central Whiteruthenian dialect became its basis. It



improved and crystalized in the 20th cent., when rather rich artistic, scientific and religious literature was written.

The old Whiteruthenian literary language extended also into Aukshtota and Samogitia, which countries form the present day Lithuania, and into the Ukraine. Attempts were made to write in Samogitian (Lithuanian) — several religious books — in the 16th cent., at first in the Prussian part, thanks to the influence of the reformation and later — to a smaller extent — in Whiteruthenian Lithuania. Secular literature began in the Samogitian language in the 19th cent. and in the 20th cent. there developped one common literary Samogitian or, as it is at present called, Lithuanian language.

The Ukrainians tried to write in the Ukrainian language in the 16th and 17th cent., but they did not succeed in breaking away from the old Whiteruthenian language. The Ukrainian literary language was not formed in the period from the 15th to 18th cent. (Durnovo). Written Ukrainian language began in the Ukraine toward the end of the 18th cent. During the 19th cent. the language of the Ukrainian literature underwent improvement and at last in the 20th cent. the Ukrainian literary language was completed.

As to the neighboring nations that were not at that time in the sphere of influence of the Whiteruthenian literary language, the Polish literary language was formed in the 16th cent.

In Muscovy which is the former name for Russia "in the 15th and 16th cent. on the basis of the local Moscow dialect there developed a practical language of its kind which was used there till the 18th cent. The language of works of art and of church in the broad sense used only the Church-slavic language." "Practical language of the Moscow offices was never the language of artistic creation nor philosophy nor scientific literatuure" (Durnovo). The Russian literary language began in the 18th cent. "The Russian literary language developped from the usage of Church-slavic in Moscovy. The Russian literary language expresses in its composition twofold element: the pronunciation and morphology are in general the same as the pronunciation and morphology of the Moscow dialect and the vocabulary and word formation and orthography are half Church-slavic" (Durnovo).

**Whiteruthenian influence on the Church-slavic language.** The Church-slavic language fell under the influence of the spoken lang-

uage in various countries where it was used as a Church language. In Whiteruthenia the Whiteruthenian type of Church-slavic with its own orthography existed from the 13th cent. until the end of the 18th cent. Because the Whiteruthenian literary language was used in the Ukraine at that time, the Whiteruthenian type of Church-slavic was used in the Ukraine. Quite a different type of the Church-slavic language existed in Muscovy. From the middle of 17th cent. the Church-slavic language of Whiteruthenia had a great influence on the Church-slavic language of Muscovy.

**Printing.**

The first Whiteruthenian printing office existed about 1480 in Cracow. It was founded there thanks to Whiteruthenian nobles who were in Cracow with their Grand Duke Kazimer, the Polish King. The first Whiteruthenian print "Triod Cvetnaya" was published in 1483 by this printing office. In 1491 the Whiteruthenians printed other books in Cracow in the same printing office — Octoich, Časoslovetz, Psaltyr, Triod' Postnaya and (the second edition) of Triod' Cvetnaya. Later on in 1517, the Whiteruthenian humanist, Dr. Francis Skoryna founded a printing office in Prague (now Czechoslovakia). There in the years 1517-1519 he published his own translation of the Bible. In 1520 he moved his printing office to the capital of Whiteruthenia, Vilna, and printed there a new edition of his Bible. For comparison's sake I mention that the first Polish print appeared in 1475 when Our Father was printed in Polish. The next Polish print was a book dated 1505.

Skoryna's printing office was on a high level and therefore exercised great influence on the development of printing both in Whiteruthenia and the neighboring countries. After the first printing office in Vilna was founded, many others arose thruout all Whiteruthenia. Whiteruthenian and church-slavic books were printed there.

In 1564 a Whiteruthenian emigrant-printer Peter Mscislavetz together with Ivan Fedorovich, a Whiteruthenian from the Muscovy state, evidently his apprentice, printed the Acts of the Apostles in Moscow. They printed in a printing office which as all the circumstances let us assume, was bought from Whiteruthenians. The first print in Moscow was followed up by a riot the cause of which was that the printers were accused of sorcery. The printing office and



the books were burnt down and the printers had to flee to Whiteruthenia. They worked then in the printing office of a Whiteruthenian nobleman, Hryhor Chodkievich in the town Zubludowye near the town of Belostok. After 1569 Ivan Fedorovich together with another Whiteruthenian printer Hryn' Ivanovich moved to the Ukraine to Lvov and in 1575 to Ostroh in Volyn. Thus they became founders of the Ukrainian printing.

After the ignorant inhabitants of Moscovy had liquidated that first printing office in 1564, printing in Moscow began not without Whiteruthenian participation until in 17 cent. and "existed only in Moscow where books almost exclusively in Church-slavic language were printed mostly liturgic and only in single events in Russian language". (Durnovo).

**Graphic arts in Whiteruthenia** known since the earliest times, develop especially with the development of printing.

**Reform of the Alphabet.**

The old church-slavic cyrilic alphabet presented many difficulties in reading and writing. Therefore a new type developed, similar to the Latin letters. It was Whiteruthenian speedwriting which gradually penetrated into printing. The Lithuanian Statute of 1588 was printed in letters similar to such a speedwriting. The letters on the title page of Whiteruthenian prints from the 17th cent. printed in Vilna came still nearer to the Latin type. In consequence to this development a Whiteruthenian learned man and manager of a printing office in Amsterodam, Elias Kopievich (sometimes called Kopievski) completely reformed the Whiteruthenian alphabet in the end of 17th cent. He simplified the letters, made them rounder and in general more similar to the Latin type. His alphabet was prettier, easier to read and write. Kopievich's reform was accepted by all the nations which have been using cyrillic letters. In the 18th cent. it was introduced into seculars books in Russia and "was known as Amsterodam letters, grazhdanka" or Whiteruthenian alphabet" (Adarjukokov).

**Latin alphabet.** Beside the cyrilic alphabet, the Latin alphabet is also used in the Whiteruthenian language, although in a smaller degree. Its beginnings date from the 17th cent.

**Arabic alphabet.** A small group of Whiteruthenian mohammedans use Arabic alphabet in their religious books written in the Whiteruthenian language.